Opłata pocztowa opłacona ryczałtem.

Цана асобнага нумару **25** грошай.

№ 23—(63). Вільня, 23 ч[...] Год II.



# БЕЛАР[...] ДЗЕНЬ

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: | Падпісная цана: | Цана абвестак: |
|---|---|---|
| Wilno (Вільня), Сьвятаянская вул. (ul. Świętojańska) № 9, кв. 1. Тэлефон № 1207. | На 1 месяц—1 зл., на 3 месяцы—3 зл., на паўгода — 5 зл. і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй. | За цэлую апошнюю старонку—120 зл., за $^1/_2$ – 65, за $^1/_4$—35, за $^1/_8$—20 зл. За міліметравы радок перад тэкстам 25 гр., у тэксьце 30 гр. і за тэкстам 10 гр. |

## Душы не пераробіш.

Працэс нацыянальнага адраджэньня беларускага народу, працэс, сьведкамі катарага мы зьяўляемся—ёсьць бясспрэчным фактам, якому ня могуць пярэчыць нават самыя заядлыя ворагі яго.

Праўда, ён не дасяг яшчэ тэй ступені свайго разьвіцьця, на каторай сьвядомыя свайго нацыянальнага „я“ народныя масы пэратвараюцца ў адзіны моцны арганізм, але усё-ж такі працэс гэты настолькі глыбока сягнуў у гушчы народныя, што думаць аб магчымасьці спыненьня яго, гэта значыла-б зусім ня лічыцца з рэчаістнасьцю.

Есьць людзі, якія ў гэным шпаркім поступе адраджэнскага беларускага руху хочуць бачыць толькі нейкую інтрыгу, альбо рэзультат кар‘ерызму паасобных адзінак, прымаючых у ім удзел. Іншыя зноў кажуць, што ўвесь адраджэнскі беларускі рух, гэта нішто іншае, як толькі заснаваны на дэмагогіі лоўкі палітычны ход яго правадыроў.

Людзі гэтыя, (а такіх людзей, нажаль, шмат, асабліва паміж нацыяналістычных гурткоў польскага грамадзянства), думаюць, што даволі прыбраць у рукі гэных кар‘ерыстых, даволі спыніць дэмагогію, і іх лоўкаму палітычнаму ходу проціставіць яшчэ лаўчэйшы — і працэс нацыянальнага прабуджэньня беларускага народу замрэ сам сабою і зьнікне, як сонная мара.

Людзі гэтыя глыбока мыляюцца. Быць можа, што кар‘ерызм, інтрыга, палітычная лоўкасьць і дэмагогія зьяўляюцца адным з элемэнтаў вялікага поступу гэтага працэсу, але ня ў гэтых зьявішчах істота і сіла яго.

Есьць беларуская прыказка, якая кажа: „абы было балота, а чэрці знойдуцца“. Вось кар‘ерыстыя, палітыканы, дэмагогі, інтрыганы, усе яны зьяўляюцца нічым болей, як толькі злыднямі беларускага „балота“, якія могуць істнаваць толькі дзеля таго, што істнуе само беларускае балота.

Сапраўдную істоту яго творыць вітаючае недзе ў падсьведамасьці народных мас, засяляючых літоўска-беларускія землі, пачуцьцё іх псыхічнай розьніцы з сваімі суседзямі, прадстаўнікамі іншых нацыянальнасьцяў.

Гэтае пачуцьцё, яскравую праяву катарага мы бачым у гэтак званай „тутэйшасьці“, у далейшым працэсе свайго разьвіцьця крышталізуецца ў постаці прызнаньня масамі свае нацыянальнае асаблівасьці і ўрэшце ў апошнім этапе свайго разьвіцьця, вытварае зусім сьведамыя свайго нацыянальнага беларускага „я“ кадры (праўда, цяпер яшчэ невялічкія) беларускай інтэлігэнцыі і сялянства, якія растуць з дня на дзень.

Істнаваньне гэтай псыхічнай асаблівасьці, на вытварэньне каторай складаліся цэлыя стагодзьдзі, і зьяўляецца сапраўднай істотай гэтага „балота“, запраўднай сілай беларускіх масаў, дзякі каторай яны мелі моц захаваць на працяг доўгіх гадоў сваю мову, звычаі і іншыя свае нацыянальныя асаблівасьці і вытрымаць культурны напор сваіх суседзяў, народаў з высокай культурай, з багатым гістарычным [...]

Толькі істнаваньнем глыбейшых, чыста псыхічных ідэйных вартасьцяў можна вытлумачыць факт вялікага поступу за апошнія часы адраджэнскага беларускага руху, для поступу каторага, як і ў працэсе адраджэньня іншых народаў, маюць вялікае значэньне два фактары: першы — гэта глыбіня ідэі і другі — індывідуальныя вартасьці рэпрэзэнтантаў гэнае ідэі.

Нажаль, беларускі народ дагэтуль ня мае сапраўдных важакоў свае нацыянальнае думкі.

Рэпрэзэнтанты гэтай ідэі далёка ня гэніі, гэта людзі, якія, за малымі выняткамі, мала падымаюцца над роўнем беларускага народнага мора і хутчэй зьяўляюцца парабкамі гэтай ідэі, чым тварцамі яе. І ня ў іх індывідуальных вартасьцях ляжыць выдатны поступ у кірунку рэалізацыі ідэі нацыянальнага адраджэньня беларускага народу, а ў глыбіні і вялікай жыцьцёвасьці гэнай ідэі, сапраўдным тварцом каторай і адначасна гадунцом зьяўляецца шэрая беларуская маса.

---

## Паўночныя таргі і земляробска-прамысловая выстаўка ў Вільні.

Першы раз у гэтым годзе арганізуюцца ў Вільні таргі і земляробская выстаўка.

Якую мэту маюць такія таргі? Таргі гэныя можам прыраўнаваць да кірмашоў, якія адбываюцца ў кожным мястэчку раз ці два разы ў тыдзень. Ёсьць яшчэ і гадавыя кірмашы, на якія зьяжджаюцца людзі з далёкіх нават ваколіц, каб прадаць свае тавары, або каб што-небудзь купіць. Такім вялікім кірмашом і будуць успомненыя таргі. У Вільню на таргі прыедуць ня толькі купцы з нашага краю, але і з цэлай Польшчы, а нават з замежных дзяржаваў. Прывязуць яны і выставяць свае тавары, каб пазнаёміць з сваімі вырабамі ўсіх, хто на таргох будзе. Таргі такія адбываюцца ўва ўсіх дзяржавах.

У Польшчы да гэтай пары кожны год таргі адбываюцца ў Львове і Пазнані.

У Вільні ладзяцца яны першы раз. Калі таргі ў Вільні будуць мець пасьпех, будуць яны ладзіцца кожны год.

Таргі маюць вялікае значэньне для Віленшчыны і для нашага краю.

Нашыя прадукты з трудом вывозяцца заграніцу. У кірунку заходнім польскія прадукты ня маюць дагодных шляхоў дзеля вывазу — дзеля таго перш за усё, што заходнія дзяржавы маюць прамысловасьць лепей арганізованую, і польскія прадукты ня здолеюць дзеля свае даражыні з імі канкураваць. Вялікай перашкодай польскага экспорту (вывазу) на захад ёсьць неўрэгуляваны дагэтуль гандлёвы дагавор з Нямеччынай.

Географічнае палажэньне нашага краю наказвае зьвярнуць увагу ў нашым вывазе на балтыцкія дзяржавы. Вялікай перашкодай тут ёсьць неўрэгуляваныя ўзаемаадносіны з Літвой. Такім чынам маем зачынены доступ Нёмнам да Клайпэды.

Праўда, што ня толькі Польшча, а перш за усё наш край, але і сама Літва панасіць з гэтай прычыны вялікія страты. Літва дастаецца пад эканамічныя ўплывы Нямеччыны і ня можа весьці самастойнае эканамічнае палітыкі. Трэба мець надзею, што само жыцьцё змусіць Літву і Польшчу пайсьці на уступкі і дайсьці да згоды.

І вось у гэтым годзе ў Вільні зьбяруцца на таргі польскія купцы з сваімі таварамі, прыедуць купцы з заграніцы, перш за ўсё з Латвіі, Эстоніі, Фінляндыі і С.С.С.Р. Таргі дадуць магчымасьць заграніцы, а нават і польскім купцом пазнаёміцца

---

## Успаміны з Пэрсіі.

(Гл. № 22 „Б. Д.“).

Найбольш цікаўным месцам у кожным пэрсідзкім горадзе — гэта гандлёвая частка яго — рынак.

Рынкі іхнія, як і ў нас, падзелены на часткі. У аднэй частцы рынку ўвесь гандаль гародніны, у іншым — юбілерны, ізноў у іншым шавецкія тавары, скуры. Усюды паміж імі вы знойдзеце мяняльшчыкаў — гэта людзі, якія мяняюць грошы.

Справа ў тым, што ў Пэрсіі толькі залатыя туманы (каля 2 расейскіх рублёў) і сярэбраныя монэты (каля аднаго рубля) і краны (адна сотая часьць монэты) чаканіць цэнтральная пэрсідзкая ўлада і гэтыя грошы маюць аднолькавы ход па ўсёй Пэрсіі, а папяровыя грошы кожная правінцыя мае свае, і дзеля гэтага мяняльшчыкі маюць шмат кліентаў і ашукваюць на курсе лёгкаверных людзей, як мага. Рынак такі, гэта цэлы лябірынт вузенькіх вулачак, з абодвух бакоў каторых стаяць адзін пры адным нейкія клетачкі, ледзь-ледзь адгароджаныя адна ад аднэй дзеравянымі перагародкамі.

Згары клеткі гэныя пакрыты плоскай страхой з гальля вымазанага глінаю. Страха гэтая пакрывае сабою і вольны паміж крамкамі праход вулачак, пакідаючы дзе-ня-дзе толькі вокны, так што цэлыя паасобныя кварталы рынку маюць выгляд аднаго вялізарнага будынку, у якім пануе змрок, прарэзаны месцамі яркімі праменьнямі сонца, уліваючыміся праз пакінутыя то там, то сям вакоўцы ў страсе.

Увайшоўшы на рынак з вуліцы, залітай яркімі праменьнямі сонца, вы адразу нічога ня можаце бачыць, і толькі, паволі прывыкшы да змроку, пачынаеце распазнаваць абкружаючы вас дзіўны вобраз. Зьвяртаюць увагу чужынца перш за ўсё крамнікі, якія гандлююць старасьвецкімі рэчамі.

Там вісяць мечы нейкага дзіўнага фасону і выгляду, то ізноў панцыры, шчыты, кальчугі і місюркі, якімі калісьці карысталіся пэрсідзкія рыцары. У іншым ізноў месцы вы бачыце нейкую старадаўную крамнёвую стрэльбу, то зноў кінджал з ручкай, абсыпанай дарагімі каменьнямі. Бачыў я там вырабы з золата і серабра ажурнай прыгожай работы. Купцы расхвальваюць тавар, кажуць скуль і як папаў ён ім, колькі вякоў мае той ці іншы меч з дамаскай сталі, выраблены у прыгожыя ўзоры.

Я ня знаўца ў справах археолёгіі, але сьвятой памяці Ян Луцкевіч, меў-бы там багатае жніво. Знаўцы мне казалі, што ў гэтай „старыне“

з галоўнымі прадуктамі нашага краю, як дзерава і лён.

У таргох задэклaравалі ўзяць удзел і выставіць асобныя павільёны жалезнарудны промысел Горнай Сілезіі, дзяржаўныя манаполі, як сьпіртны, салявы і іншыя.

Пачатак таргоў і выстаўкі 18 жніўня. Будуць яны трываць да 9 верасьня.

Пад таргі і выстаўку прызначаны Бэрнардынскі сад і парк імя гэн. Жэлігоўскага, агулам плошча 20 гэктараў. Найвялікшыя павільёны прызначаны для лясного і земляробскага промыслу.

Земляробская выстаўка накшталт прадваеннае выстаўкі ў гэтай галіне зьбярэ шмат экспонатаў з розных галін земляробства. Выстаўка павінна зацікавіць шырокія слаі земляробаў, якія будуць мець магчымасьць бачыць шмат цікаўных экспанатаў з галіны земляробства.

Таргі і земляробская выстаўка ў Вільні прычыняцца да падняцьця эканамічнага роўня нашага краю.

Яны дадуць магчымасьць нашым суседзям, а нават і самой Польшчы пазнаць багаты промысел нашага краю.

Адначасна пры помачы таргоў удасца навязаць лучнасьць гандлёвую з нашымі балтыцкімі суседзямі, дзе нашыя вырабы павінны знайсьці збыт.

Такім чынам можа ўдасца нашаму краю знайсьці выхад з нашага цяжкага палажэньня, ў якім ён цяпер знаходзіцца, а якое можна сьмела параўнаць да закаркаванай бутэлькай.

---



## Смаленскі працэс.

У Смаленску адбываецца цяпер вельмі цікаўны і характарнае сьвятло кідаючы на камуністычную партыю працэс.

На лаве абвінавачаных у гэтай справе не сядзяць ані расейскія ці заграгічныя „спэцы“, і не белагвардзейцы і контр-рэвалюцыянэры, але паважныя камуністычныя дзеячы, да нядаўна займаўшыя галоўныя становішчы ў смаленскім окрузе.

За што іх судзяць?

Кантрольная камісія, робячы рэвізію ў смаленскай губэрні, выкрыла, што рабіліся тут у працягу некалькіх гадоў надужыцьці, у фабрыках панавала п'янства, спаўняліся розныя афэры і зладзействы, а адказныя ўрадоўцы сыстэматычна даконвалі зладзействаў і гвалтаў. Работа такая трывала некалькі год і трэба толькі агульнай дзяржаўнай дэзарганізацыі саветаў прыпісаць, што злачынствы цэлыя гады былі нявыкрыты. За гэтыя надужыцьці і злачынствы, якія прынясьлі мільёны стратаў, а што галоўнае ад'емнае устасункаваньне насельніцтва да ўлады саветаў, як улады зладзеяў, адказваюць кіруючыя партыйныя органы смаленскай губэрні, бо яны нічога не зрабілі, каб надужыцьці і гвалты выкрыць, а самі іх даконвалі.

У наступстве ўсяго гэтага адданы пад суд, па папярэднім выключэньні з партыі, начальнік заходняга гандлёвага камітэту Пакалн, гаспадарчыя работнікі Філімонаў і Гартман, сябра губэрскага прэзыдыуму прафэсіянальных саюзаў Дзямідаў і шмат іншых савецкіх урадоўцаў.

Адначасна скінены з становішча старшыні смаленскай кантрольнай камісіі Нікіцін. Шмат урадоўцаў дастала суровыя выгавары.

„Смаленская афэра“ гучным рэхам разышлася па С.С.С.Р. Яна выклікала перапалох у кіруючых сфэрах.

Сьведчыць яна, на што зварочвае ўвагу

---

шмат ёсьць ашуканства, і што пэрсы спэцыяльна вырабляюць „старадаўныя рэчы“, якія знаходзяць вялікі збыт. Цікаўны таксама розныя талізманы. Гэта рэчы, якія маюць уласнасьць, — паводлуг таго, што кажуць купцы, — бараніць людзей ад усяго благога. Асабліва захвальваў мне адзін купец талізман нейкага індускага раджы, які меў вялікую моц.

З выгляду талізман гэты быў нічым іншым, як сярэбраным пярсьцёнкам, каля якога зьмейкай абвіваўся неўкі тоўсты волас, як мне здавалася, конскі.

У Хамадане на рынку вы знойдзеце шмат ізумрудаў, прыгожых каменьчыкаў, ярка-нябеснага колеру. Яны тамакі недарагія. Іх прадаюць альбо бяз усялякай аправы, альбо апраўленых у залатыя і сярэбраныя пярсьцёнкі і кольчыкі. На рынку ня чутно гвалту, як у нас. Стаіць толькі нейкі шум, ад гоману людзей, ад часу да часу толькі шум гэты прарэзвае крык ішака, нагружанага таварамі, альбо лаянка пасварыўшыхся пэрсаў, якія са злосьцю кідаюцца адзін на аднаго, гагочуць, размахваюць рукамі — вось, вось, здаецца схопяць адзін аднаго за горла. Але гэта толькі так здаецца. Іранцы — народ спакойны і да бойкі ў іх ніколі амаль не даходзіць. Пакрычаць, пакрычаць і расходзяцца.

То тутакі, то тамакі па рынку, як урэшце і па ўсім горадзе раскіданы кафэ—ханэ; гэта іхнія рэстараны, трохі падобныя да польскіх кавярняў.

У гэткім рэстаране вы дастанеце шашлык, (смажаныя на ражне тонкія палоскі бараніны), пілав (тушоная бараніна з рыжам, прыхарошаная шафранам), люля ксабаб (рубленыя катлеты з бараніны, моцна прыпраўленыя перпам і цыбуляй), гарбату і каву, козі сыр і ляваш.

У пэрсаў няма асобнага чайніка для заваркі гарбаты, а падаюць тамакі кіпень і сухую гарбату. Трошкі сухой гарбаты ўсыпаецца ў чашку і заліваецца кіпнем і калі яна нацягне, тады п'юць. Ляваш, гэта пшанічны хлеб. Пякуць яго ня гэтак як у нас, у кшталце булак, а ў кшталце бліноў. Бліны гэныя, пасьля таго як вымуць іх з печкі, застаюцца мягкімі. Іх тады кладуць на сонцапёку, каб яны трошкі падсохлі.

Пры ежы блін гэткі скручваюць у дудку і гэтак ядуць. Ня вельмі ён смачны сам сабою, а робіцца яшчэ меней смачным, калі ўбачыш, як яго пэрсы робяць і якімі шляхамі ён прыходзіць да крамак. У хлебапякарнях бруд страшэнны, калі ён сохне — з усіх бакоў на яго наносіцца пылу з вуліцы. А ў крамкі разносяць яго, палажыўшы бунт бліноў на галаву.

Яны быццам хустка атуляюць галаву насільшчыка з усіх бакоў, зьвісаюць па твары яго, мяшаюцца з потам насільшчыка. Я бачыў аднаго

кантрольная камісія, аб вялікім моральным раскладзе смаленскай камуністычнай партыі.

Але гэта не адзін толькі выпадак. Ня так даўно падобная афэра была ў Туркестане, пасьля ў Крыме адбываўся суд над старшынёй народных камісараў, які быў адначасна звычайным бандытам. Такім чынам, моральны расклад сярод камуністычнае партыі, якога доказам і ёсьць усе гэная надужыцьці і зладзействы высокіх камуністычных урадоўцаў, узмагаецца. У зьвязку з смаленскай афэрай цэнтральныя органы даручылі правясьці чыстку ў камуністычнай партыі.

Па правядзеньні чысткі, і так невялікая лікам партыя, якая спаўняе ролю дыктатара над Расеяй, яшчэ болей зьменшыцца.

Цікаўна, што надужыцьцяў даконваюць не ў цэнтральных губэрнях, прынамсі вялікіх надужыцьцяў, але ў „саюзных рэспубліках“. Прыкладам Смаленск, Крым, Туркестан. Гэта сьведчыць аб тым, што з цэнтральнае Расеі едуць туды на становішчы высокіх урадоўцаў усякія „прайдзісьветы“ або проста зладзеі.

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Дарога да эканамічнага ўзмацненьня краю.

У першых днёх чэрвеня адбыўся ў Вільні зьезд Саюзу Землеробскіх Гурткоў і Арганізацыяў (Związek Kółek i Organizacyj Rolniczych).

Саюз Землеробскіх Гурткоў і Арганізацыяў зьяўляецца найпаважнейшай эканамічна-гаспадарскай арганізацыяй у нашым краі.

Арганізацыя гэтая залажыла ў нашым краі шмат гаспадарскіх інстытуцыяў на мясцох. Так што ў сваіх руках трымае ў поўнай меры гаспадарскае жыцьцё нашага краю. Арганізацыя гэтая фармальна павінна быць апалітычнай.

Аднак з першых дзён яе існаваньня пачалася рывалізацыя і барацьба паміж тымі людзьмі, якія хацелі утрымаць фактычную апалітычнасьць арганізацыі, і тымі, якія мелі імкненьні і амбіцыі апанаваць арганізацыю і зрабіць яе об'ектам сваіх уплываў. Барацьба прынясла перамогу людзям болей энэргічным, уплывовым і арганізаваным. У рэзультаце адзінкі, якія хацелі ўтрымаць апалітычнасьць арганізацыі, мусілі адыйсьці на другі плян. Для нас, беларусаў, ёсьць ясным, што нашае нацыянальнае адраджэньне павінна ісьці побач з эканамічным і гаспадарчым адраджэньнем нашага краю. Таму ад самага пачатку ў беларускім грамадзянстве паўставала пытаньне, ці ісьці супрацаваць з польскімі гаспадарчымі арганізацыямі, ў гэтым выпадку з Саюзам Землеробскіх Гурткоў (Związkiem Kółek Rolniczych), ці імкнуцца стварыць свае ўласныя эканамічныя арганізацыі?

Час уплываў, а беларускае грамадзянства, занятае абаронай сваіх элемэнтарных нацыянальных правоў, не магло нават думаць аб стварэньні беларускіх гаспадарскіх арганізацыяў.

Беларускі Коопэратыўны Банк, які пачаў працу ў 1926 годзе, меў быць такой у пэўнай меры гаспадарчай пляцоўкай. Банк прышоў з дапамогай сялянству, даючы на дагодных варунках пазыкі. Банк памысна разьвіваўся, аб чым сьведчаць аддзелы ягоныя ў Глыбокім і Пінску.

Аб тым, што банк быў добра прадуманай і патрэбнай інстытуцыяй, сьведчыць тое, што нават такі ўдар, як зьвязаньне банку з „Грамадой“ ня здолеў яго зьнішчыць. Банк выйшаў абарон-

разносчыка лявашу, галава каторага і твар быў увесь пакрыты нейкай каростай.

Доўга пасьля таго ня мог я есьці лявашу і карміўся выключна сухарамі, але прыйшоў час, калі сухароў ня мог дастаць: і трэба было вярнуцца ізноў да лявашу.

Козі сыр вельмі смачны і клусты. Каб ня ссох ён, яго ўсьцяж трымаюць у салёнай вадзе. Але таксама і яго выраб відаць адбываецца ў негігіенічных абставінах, бо вельмі часта ў сыры вы знойдзеце рознае сьмяцьцё і клачкі казячай шэрсьці. Наагул пэрсы жывуць у вельмі негігіенічных варунках, і прывыкнуць да гэтага жыцьця нашаму чалавеку вельмі цяжка.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

У Хамадан я папаў на пяты дзень свайго прыезду ў Пэрсію.

Пасьля Энзэлі з яго страшэннай вільгацьцю, малярыяй, камарамі і з „памідорамі на галіфэ“, Хамадан адразу паказаўся мне раем. Праўда, сонца тамака прыпякала ня менш, а можа яшчэ больш, чымся ў Энзэлі, але затое вечар і ноч прыносілі сапраўдны адпачынак.

Недалёка ад Хамадану падымаецца горны масыў з вярхоўкай, прыбранай у белую шапку сьнягоў, блішчучых у праменьнях гарачага паўднёвага сонца.

Гара выглядае ня высокай, і дзякі празрыстаму паветру здаецца, што даволі толькі выцягнуць руку, каб дастаць белую шапку яе.

Сапраўды ад гары да Хамадану кілёмэтраў восем. Вось увечар, калі зайдзе сонца і лёгкі асьвяжаючы вецярок павее ад яе, чалавек можа адпачыць пасьля гарачага агнявога дня.

Першыя дні быцьця ў Хамадане здаліся мне нейкім дзіўным сном.

Здавалася мне, што ўвесь гэны заліты морам сонца горад з яго дзіўным народам, усё яго жыцьцё. Гэныя дамы бяз стрэх, гэныя высокія крытыя вуліцы з абодвух бакоў каторых вы ня бачыце дамоў, а толькі высокія гліняныя сьцены — урэшце гэныя цёплыя ціхія ночы з аграмадным дыскам месяца, асьляпляючым вока сваімі белымі праменьнямі — усё гэта выглядала мне на некую казку, вычытаную калісь на бацькаўшчыне ў дзіцячыя гады, альбо працягам нейкага дзіўнага сну.

Вечарам, п'ючы гарбату на плоскай страсе свае хаты, падстаўляючы твар пад подмух прынесенага ад гораў асьвяжаючага ветрыку, заглядзеўшыся ў белы твар месяца, заслуханы ў ціхі гоман засынаючага гораду, альбо ў чароўную музыку званочкаў прыбліжаючагася да гораду каравану, я прыпамінаў дзіцячыя казкі, я перажываў свае дзіцячыя сны.

*Дзядзька Пранук.*

(*Працяг будзе*).

най рукой і цяпер, як сьцьвярдзіў гэта дзяржаўны рэвізор банку, разьвіваецца і мае ўсе падставы да развою. Аднак банк ня можа заспакоіць усіх патрэбаў беларускага насельніцтва.

Другой спробай пакліканьня да жыцьця эканамічна-гаспадарскай арганізацыі было заснаваньне Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры. Арганізацыя гэтая аднак з зусім зразумелых прычын, а ласьне адсутнасьці сродкаў не магла праявіць шырэйшай дзейнасьці, агранічылася толькі да культурна-асьветных мэтаў.

Нічога дзіўнага, што спробы беларускага грамадзянства з'арганізаваньня і ажыцьцяўленьня беларускіх гаспадарчых арганізацыяў, не прынясьлі ніякіх скуткаў. Рывалізацыя была зацяжкая.

Бо да гэтага часу Саюз Земляробскіх Гурткоў і Арганізацыяў узмацаваўся, атрымваючы субсыдыю ад ураду.

Ізноў паўстае пякучае пытаньне стварэньня беларускай эканамічна-гаспадарчай базы. Украінцы такую базу ўжо маюць. Але ня можна раўняць у гэтым выпадку украінцаў з беларусамі.

Ёсьць адна дарога, адна магчымасьць, аб якой нам ня можна забывацца. Саюз земляробскіх гурткоў, байкатаваны праз сьведамыя беларускія адзінкі, аднак узрастае. Гэта зусім натуральна. Бо імкненьне сялянства да паднясеньня і папраўленьня свайго жыцьця, свае гаспадаркі і зразуменьне карысьцяў, якія дае прыналежнасьць да такой арганізацыі, адносіць перамогу над усім іншым.

Дзеля гэтага арганізацыя гэтая пашыраецца і ўзмацоўваецца. Паводле нас, трэба стасаваць тут зусім іншую тактыку. Трэба пакінуць пасыўнае ўстасункаваньне да гаспадарчае праблемы. Самі ўласнымі сіламі ня зможам вытварыць свае эканамічнае базы. Трэба ўсе сілы напружыць, каб тыя арганізацыі, якія ўжо існуюць і разьвіваюцца, а якіх мэтай паправа гаспадарчага жыцьця нашага краю, мы здолелі заваяваць.

Нам здаецца, каб ад самага пачатку сьведамыя беларускія адзінкі ўвайшлі ў Саюз Земляробскіх Гурткоў і Арганізацыяў, то да гэтай пары воблік гэнай арганізацыі быў-бы зусім іншы а наш край для сяньняшніх кіраўнікоў гэнай арганізацыі ня быў-бы „północno-wschodnią połacią Polski“, што ў пераводзе на праўдаенныя часы ёсьць нічым іншым, як толькі „северо-восточным краем“.

Уваходзячы ў земляробскія арганізацыі, беларусы праз нейкі час здолеюць іх адваяваць, бо за імі стануць сялянскія масы — гаспадар нашага краю.

Трэба памятаць, што ўсё на сьвеце зьмяняецца. „Заўтра“ нашага краю будзе іншае, ніж сяньняшні дзень.

Трэба ўзмацоўвацца, бо ізоляцыя і пасыўнасьць нам шкодзяць.

Стан „posiadania“ другой стараны праз гэты час узмацоўваецца і барацьба, або рывалізацыя пасьля будзе труднейшая.

## Як даведацца, якіх рэчаў патрабуюць нашыя грунты.

Кожнаму ведама, што нашыя грунты па свайму складу бываюць вельмі розныя, дзеля чаго даюць неаднолькавы ўраджай.

На адных грунтох пасеяная адна і тая-ж самая расьліна вырастае вельмі добра, а на другіх яна амаль гіне, ня гледзячы на тое, што апошнія могуць быць лепш апрацованы і больш угноеныя; асабліва гэта заўважваецца ў тых гаспадарках, дзе існуе травасеяньне.

Калі грунты ўдабраць пераважна гноем, дык у іх часта не хапае фосфарнага квасу. У гэткіх выпадках фосфарнакіслыя тукі, асабліва-ж — тамасовы-шляк зьяўляецца вельмі карысным. Але ня гледзячы на ўсё, і тут бывае гэтак, што сколькі-б мы ня раскідвалі-б тамасовага-шляку ці фасфарыту — ураджаў жытоў амаль не павялічваецца. Гэта паказвае, што нашыя грунты патрабуюць яшчэ якіх-колечы рэчаў.

М. ЗОШЧЭНКО.

## Фама Нявeрны.

Фама Крукаў тры гады не адтрымліваў ад сына лістоў, а тут, маеш табе — адтрымлівайце, Фама Пятровіч, з гораду Масквы, ад роднага сына пяць рублёў.

„Бачыш ты, — думаў Фама, разглядаючы адтрыманае паведамленьне, — другі-б сын, нябось, тры рублі адваліў-бы і досыць. А гэты, на табе— пяць рублёў. Гэтак рублёўку і праціць будзе ня грэх“.

Фама Крукаў папарыўся ў лазьні, налажыў чыстую сарочку, выпіў паўбутэлькі самагону і паехаў на пошту.

„Скажэце, калі ласка, — разважаў Фама дарогай,—пяць рублёў! І чаго толькі ня робіцца на сьвеце!... Цароў няма, нічога няма, мужык маець сілу... Сын, дык можа дзяржавай кіруець... Па пяць рублёў бацьку адвальваець... А можа брэшуць людзі аб мужыкох? Ой, відаць, брэшуць! Сын, дык напэўна нумарным у готэлі служыць!“

Фама прыехаў на пошту, падыйшоў к ваконцу і палажыў паведамленьне.

— Грошы,—кажа Фама, — грошы мне трэба ад сына адтрымаць.

Касіер пакапаўся ў паперах і палажыў перад Фамой поўчырвонца.

— Вось як!—кажа Фама, — а ліста мне сын ня пішаць.

Касіер нічога не адказаў і адыйшоў ад ваконца.

„Ня пішаць,—падумаў Фама.—А можа пасьля напішаць. Можам чакаць, калі, скажам, ёсьць грошы“.

Фама ўзяў грошы, паглядзеў на іх з зьдзіўленьнем і раптам стукнуў далоньню па прылаўку.

— Эй, дзядзька!—раўнуў Фама,—якія грошы сунеш, глядзі?! ..

— Якія грошы?—кажа касіер,—новыя грошы...

— Новыя?—перапытаўся Фама.—Можа, яны, гэтае самае, ліповыя, га? Думаеш, выпіўшаму чалавеку ўсё ўпіхнуць можна?

— Знакі, гэта—дзе?

Фама паглядзеў на сьвятло, пакруціў у руцэ, потым зноў паглядзеў.

— Ну?—з зьдзіўленьнем сказаў Фама,—гэта хто там такі ёсьць? намаляваны—гэта... ці ня мужык гэта? мужык. Дальбог, мужык. Ну? Ня брэ-

Каб вырашыць гэтае пытаньне, паступаюць гэткім чынам. Выбіраюць у папарным полі зусім аднолькавы па характары кавалак грунту без гарбоў і лашчынаў, дзеляць яго папярэчнымі ці далявымі бароznамі на восем роўных частак, пакідаюць адну з іх нічым ня ўгноенай, у другую прыбаўляюць толькі салетры, у трэцюю—тамасовага-шляку, у чацьвёртую — кайніту, у пятую — мешаніны салетры з тамасовым-шчякам, у шостую — мешаніны кайніту з тамасовым шлякам, у сёмую — мешаніну салетры з кайнітам і ў восьмую — усіх трох удабрэньняў: салетры, тамасавсгашляку і кайніту.

Пасьля ўсяго, увесь кавалак апрацоўваюць зусім аднолькава, як гэта робіцца звычайна ў гаспадарцы.

Калі падыходзе час сяўбы, дык гэты кавалак засяваецца жытам ці якой-колечы іншай хлебнай расьлінай і заорваецца мелка плугам ці нават, калі грунт добра апрацованы, аднэй бараной.

У хуткім часе пасьля паяўленьня ўсходаў магчыма будзе заўважыць розьніцу ўгноеных намі частак. Найбольш пригожа абайдуць усходы на той, якая была ўгноена ўсімі трыма рэчамі. Атрымаецца гэта дзеля таго, што на ёй карэньні збожжа знайшлі для сябе ўсе патрэбныя для іх рэчы — азот, калі і фосфарны квас.

Але каб добра і дакладна даведацца, які ўплыў мелі нашыя ўдабрэньні на рост і ўраджай пасеянай расьліны, трэба дачакацца, пакуль яна дасьпее, а пасьля паасобна зжаць снапы з кожнага кавалка і асобна змалаціць іх; пасьля ўсяго, паасобна таксама адважыць атрыманыя зярняты і салому.

Калі пры гэтым з няўгноенага кавалку атрымаем, напр., 2 пуды зярнят, а з угноенага ўсімі рэчамі 4 пуды, дык вынікае з гэтага, што поўнае мінэральнае ўдабрэньне павялічвае ўраджай у два разы больш. Але, аднак-жа, гэта ня сьведчыць яшчэ, што наш грунт бедны ўсімі гэтымі рэчамі. Можа быць, дзеля атрыманьня таго-ж самага ўраджаю, ў нашым грунцэ не хапала толькі аднае ці дзьвюх з пералічаных рэчаў. Каб вытлумачыць гэта, неабходна паглядзець, колькі атрымалася зярнят і з іншых кавалкаў. Калі пры гэткім зраўнаваньні зьявіцца, што з пятай часткі (кавалку), угноенай салетрай і тамасовым-шлякам, збор зярнят і саломы таксама атрымаўся добры, дык з гэтага вынікае, што наш грунт не патрабуе калію, бо ў пятым кавалку (частцы) ня было паложана кайніту, а ўраджай атрымаўся даволі добры без яго.

Цяпер трэба паглядзець, колькі выйшла зярнят з другога і трэцяга кавалку, угноеных толькі тамасовым-шлякам і салетрай. У апошнім выпадку можа зьявіцца, што і з трэцяга кавалку таксама атрымаўся прыблізна добры ўраджай, дзе ўнесены на грунт толькі фосфарны квас.

З апошняга мы бачым, што прызначаны дзеля досьледу наш грунт не патрабуе калію і азоту, але патрабуе толькі аднаго фосфарнага квасу.

Каб аканчальна пераканацца ў гэтым, трэба паглядзець яшчэ, ці шмат зярнят і саломы атрымалася з шостага кавалку, на якім быў рассыпаны кайніт з тамасовым-шлякам. Калі апошні грунт сапраўды патрабуе фосфарнай кісьлаты, дык і тут тамасоў-шляк палепшыць ураджай; аднак-жа, можа здарыцца і гэтак, што адзін тамасоў-шляк не дае жаданага ўплыву, а ўраджай павышаецца кайнітам. У гэткім выпадку мы аканчальна можам сказаць, што разглядаемы грунт патрабуе толькі калійнага ўдабрэньня.

Дзякуючы чаму, ўсе кавалкі, на якія быў унесены кайніт асобна ці ў мешаніне з азотам ці фосфарным квасам, дадуць павышэньне ўраджаю.

Шматгадовая практыка вучоных і практычных сялян даводзе нас да пераканаиьня, што: 1) ужываньне фосфарных удабрэньняў на нашых грунтох робіць найвялікшы ўплыў на рост і ўраджай: жыта, аўса, канюшыны і капусты; 2) кайніт і калійныя солі павышаюць ураджай лёну, бульбы, канюшыны і ячменю амаль на ўсіх грунтох; апрача гэтага, кайніт паляпшае і расьлінасьць на сенажацях; 3) салетру трэба рассыпаць больш пад дарагія расьліны, як: пшаніца, буракі і наагул пад агародныя; на іншых-жа грунтох азот карысьней зьбіраць пры дапамозе сеяньня

---

шуць, значыцца, людзі. Мужык намаляваны на грошах. Няўжо-ж такі ня брэшуць?

Няўжо-ж мужык такую сілу мае?

Фама ізноў падыйшоў да ваконца.

— Дзядзька,—кажа Фама,—намаляваны гэта хто? Даруй за словы...

— Пайшоў, пайшоў!—кажа касіер, — адтрымаў грошы, дык і йдзі к чорту.

— Дзе намаляваны?

— Ды, на грошах!

Касіер паглядзеў на селяніна і кажа пасьмехваючыся:

— Мужык намаляваны. Ты, ваша вялікасьць, замест цара намаляваны, вразумеў?

— Няўжо?—кажа Фама.—Мужык? Як-жа ж гэта я нічога аб гэтым ня знаю, ня ведаю? I зямлю гару. I ўсе ў нас гаруць, і ня ведаюць.

Касіер засьмяяўся.

— Далібог,—кажа Фама.

— I ўзапраўды, пацьвярджаюць людзі: дзеячы, кажуць, цяпер сялянскія. I сялянства ў пашане. Але як гэта пашана выглядаець на дзеле, праўда гэта, ці брэшуць людзі—няведама... Ну, але калі на грошах партрэт... Няўжо-ж такі ня брэшуць?

— Ну, пайшоў, пайшоў,—зноў кажа касіер.— Не замінай тутака.

— Зараз,—кажа Фама. — Грошы толькі дай схаваць, з партрэтам, га... А я, дзядзька, май на ўвазе, цароў гэтых самых і раней ня любіў... Далібог . . .

Фама з горыччу ў сэрчы паглядзеў на злога касіера і выйшаў.

„Скажэце, калі ласка, — разважаў Фама, — партрэт выводзяць... Няўжо-ж мужыку царская пашана?“

Фама пагнаў каня, але каля лесу раптам павярнуў назад і паехаў у горад.

Затрымаўся Фама каля вакзалу, прывязаў каня да плоту і ўвайшоў у памешканьне.

На вакзале амаль нікога ня было. Каля дзьвярэй, на лаўцы, палажыўшы пад галаву торбу, спаў нейкі чалавек у мяккім капялюшы.

Фама купіў за дзьве капейкі гарбузоў і прысеў на вакне, але, пасядзеўшы мамэнцік, падыйшоў да лаўкі і раптам раўнуў:

— Эй, капялюш, злазь з лаўкі! Мне сесьці трэба...

Чалавек у капялюшы адчыніў вочы, здумленна глянуў на Фаму і сеў. І, пазеўваючы і плюючы, пачаў круціць папіроску.

розных бабовых расьлінаў (канюшыны, вікі і г. д.), аб чым ужо гутарылася ў нашай газэце.

Да ўсяго вышэйсказанага аб мінэральных удабрэньнях неаўходна яшчэ дадаць, што найбольшы ўраджай атрымоўваецца тады, калі ў нашым грунце ёсьць задаваляючая колькасьць вільгаці, цяпла і сьвятла, калі фізычная будова грунту гэткая, што карэньні расьлінаў могуць лёгка распаўсюджвацца ў ім, і калі грунт не патрабуе ніводнай з пералічаных патрэбных дзеля ежы рэчы.

Звычайна лічаць, што калі ў грунце азот, фосфарная кіслата і калі знаходзяцца хоць і ў малой колькасьці, але ў гэткіх прапорцыях, у якіх яны бяруцца з грунту расьлінамі, тады ўдабрэньне якімі-колечы з гэтых рэчаў ня можа зрабіць ніякага ўплыву.

Аднак-жа часта сустракаецца і гэтак, што пры дапамозе гэтых удабрэньняў таксама павышаецца ўраджай. Напр., на грунтох багатых азотам, вельмі добра растуць расьліны багатыя бялковымі рэчамі і зразумела азотам; калі-ж мы гэткі грунт угноім яшчэ фосфарным квасам і каліем, дык ураджай таксама палепшыцца, але расьліны будуць бяднейшыя азотам, інакш кажучы, тая-ж самая колькасьць яго будзе знаходзіцца ў большай масе ўраджаю.

Удабраючы гэткім чынам наш грунт фосфарным квасам і каліем, мы расходуем гэтыя рэчы вельмі не эканомна, дзеля таго, што расьліны будуць выкарыстоўваць іх у большай колькасьці, чым патрэбна; але затое будзе расходавацца менш іншых рэчаў.

Практычныя гаспадары ўжо пераканаліся, што ўдабрэньне грунтоў паасобна гэтымі рэчамі не дае гэтак добрага ўраджаю, як у зьмешаным стане. Поўнае ўдабрэньне, якое ўтрымоўвае ў сабе азот, фосфарвы квас і калі, заўсёды павышае ураджай, калі толькі гэтаму не пашкодзіць кепская пагода (засуха), шкодныя авадні і г. д.

Наагул кажучы, пытаньне аб разумным удабрэньні грунтоў вельмі цесна зьвязана з адношаньнем удабрэньняў да расьлінаў. Адны з іх збагачваюць грунты, а іншыя выкарыстоўваюць, аб чым гутарылася ўжо раней. *S.*

## Не гадуйма задоуга травы, таму што лепш мець меней добрага сена, чымся шмат благога.

Гаспадары нашыя часта кваляцца на тое, каб трава на лузе, альбо канюшына на полі, расла якнайдаўжэй, а гэта дзеля таго, што быццам чымся трава даўжэй будзе расьці, тым яны больш будуць мець сена.

Тымчасам гэтак ня ёсьць, яны вельмі мыляюцца, бо заходзіць тутака вялікая розьніца, што да вартасьці сена, як пашы, прызначанай звычайна дзеля свайго-ж уласнага інвэнтару.

Чым малодшая трава, тым сена з яе будзе лепшае, гэта значыць *пажыўнейшае.*

Ня кажам тутака аб тым, каб касіць зусім недасьпелую траву, альбо канюшыну, тады-б мы і ўзапраўды прычыніліся да зьменшаньня колькасьці сена. Але трэба ўтрымаць належную меру, трэба ведаць тое, што расьліна, прызначаная на сена, не патрабуець высіляцца на высьпяленьне насеньня, таму, што тады сьцябліна яе дзеравянее, а ўся моц яе канцэтруецца ў каласку, каторы лёгка пры сушэньні ападаець і марнуецца; сама-ж расьлінка цьвярдзееć і робіцца мала пажыўнай.

Ня трэба дзеля гэтага чакаць, каб трава перакрасавала і пачала тварыць насеньне. Касіць яе трэба перад красаваньнем, альбо найпазьней падчас красаваньня.

Тады яна ўжо вырасьце даволі, больш яе ўжо ня прыбудзе, будзе затое далікатнай і, як паша для быдла, найбольш вартаснай і пажыўнай.

Сена з траваў ці канюшынаў, каторыя будуць скошаны перад адкрасаваньнем, будзе мець без параўнаньня больш *пажыўнога бялку*, чымся сена з расьлінаў ужо перакрасаваўшых, а тым болей з расьлінаў перастарэлых.

Сена расьлінаў перастарэлых будзе мець кармавую вартасьць вельмі ўжо нізкую, роўную часамі вартасьці саломы.

Навука пад тым паглядам даець нам пэўныя

---

Фама прысеў побач, адсунуў торбу і пачаў са смакам жаваць гарбузы, сплёўваючы лупіны на падлогу.

„Ня брэшуць,—думаў Фама. Пашану ўсё-ж такі можна заўважыць. Слухаюць. Раней, магчыма, што па твары заехалі-б, а гэта, баяцца. Бачыш ты, як гэта ўсё перарабілася, няўважна неяк зрабілася...

Скажэце, калі ласка... ня брэшуць?

Фама ўстаў з лаўкі і з задаваленьнем прайшоўся па салі. Потым падыйшоў да касы і заглянуў у ваконца.

— Куды?—спытаўся касіер.

— Што куды?

— Куды білет, дурная галава?

— А нікуды,—спакойна адказаў Фама, разьглядаючы памешканьне касы.—Магу я паглядзець у сярэдзіне касу, ці не?

— А? нікуды? — кажа касіер, дык чаго лыч па пустому прэш.

— Лыч? — пакрыўджаны спытаўся Фама. — Каму кажаш, га?

— Бачыш ты яго, п'яная морда!—сярдзіта адказаў касіер.

Таксама ў ваконца заглядае.., чорт шэры...

Фама схіліўся к вакну і раптам харкануў на касіера і хутка пайшоў к дзьверам.

Фаму затрымалі, калі ён адвязваў каня ад плоту. Ен вырываўся, крычэў, хацеў нават грызнуць стоража за шчаку, але яго валаклі да дзяжурнага агента.

Там, крыху супакоіўшыся, Фама прабаваў нешта тлумачыць, махаў рукамі, даставаў з шапкі грошы і прапанаваў агенту паглядзець на іх.

Але агент, хутка абмакваючы асадку ў чарнільніцу, пісаў пратакол аб зьневажэньні чынам касіера, калі той спаўняў свае службовыя абавязкі. І яшчэ аб тым, што Фама, знаходзячыся яўна ў нецьвярозым стане, еў у зачыненым памешканьні гарбузы і пляваў на падлогу.

Фама паставіў пад пратаколам крыжык і, ўздыхнуўшы і ківаючы галавой, выйшаў з памешканьня.

Адвязаў каня, сеў на воз, дастаў грошы з шапкі і паглядзеў на іх. Потым махнуў рукой і сказаў:

— Брэшуць, чэрці... І пагнаў каня да хаты.

Пераклаў з расейскага Я. П.

рады, якія мусім мець заўсёды на ўвазе. Табліцы вартасьці ўсялякіх пашаў шмат аб чым нам гаворадь. Напрыклад, сена дрэннае ў 1 кілёграме ($2^1/_2$ фунты) будзе мець 35 грамаў *пажыўнога бялку*, тады, калі сена вельмі добрае будзе мець у 1 кілёгр. такога-ж бялку 75 грамаў.

Гэткім дрэнным сенам можа быць іменна сена з перастарэлых траваў, будзе яно цьвёрдае і саломістае. Возьмем дзеля прыкладу авёс, які таксама ёсьць як быццам адменаю травы. Вось-жа сена з зялёнага аўса падчас красаваньня будзе мець у сабе ў 1 кілёгр. 40 грамаў пажыўнога бялку, тады, калі сена з зялёнага аўса, але калі ён маець зярняты ўжо напалавіну сьпелыя, будзе мець у 1 кілёгр. 28 грамаў гэтага-ж бялку. Гэта ёсьць, як бачым, вялікая розьніца, а трэба ведаць, што тое самае дзеецца і з травамі, якія зусім падобным спосабам могуць быць скошаны ў часе красаваньня, і тады, калі ўжо твораць зярняты.

Яшчэ больш вучаць нас навуковыя досьледы над пажыўнасьцяй пашаў.

Вартасьць кожнае пашы, спажыванае быдлам, залежыць, галоўным чынам, ад яе пажыўнасьці. У досьледах *пажыўнасьць пашы* мерыцца гэтак званым паказьнікам пажыўнасьці, які азначаецца ў процантах (%), Вось-жа пэўныя досьледы паказалі, што: канюшына чырвоная ў пачатку красаваньня дала 75% пажыўнасьці, а ў канцы красаваньня 59% пажыўнасьці; сена з цімахвеяўкі перад красаваньнем — 57% пажычн., пасьля красаваньня — 45% пажыўнасьці.

Каб было больш зразумелым, можна гэтак сказаць, што 57 кілёграмаў сена з аднае цімахвееўкі будзе мець у кармленьні тое самае значэньне, што 45 кілёграмаў з раней сабранае.

Дзеля гэтага ня трэба гадаваць травы і канюшыны аж да таго часу, калі яны ўжо будуць менш варты.

Пачнём касьбу ў тым часе, калі сена дасьць нам найбольшую карысьць, таму, што можам мець шмат больш менш вартастнай саломы, а страцім карысны для быдла бялок.

Практычна бяручы, лугі касіць трэба тады, калі большасьць траваў пачынае цьвісьці. На добрых лугох звычайна лічыцца за час цьвіценьне лугавой кастравы (Festaca pratensis). Момант закрасаваньня лугавое кастравы ёсьць адзнакаю часу распачацьця касьбы на гэтым лузе.

Асаблівую ўвагу трэба зьвяртаць пры зьбіраньні цімафееўкі, таму, што вельмі добрая гэтая трава хутка цьвярдзее і траціць сваю кармавую вартасьць.

Найлепш цімахвееўку касіць тады, калі веха яе выйдзе з похвы, але яшчэ не зацьвіцець. Зараз-жа па адкрасаваньні цімахвееўка робіцца цьвёрдаю, і вельмі шмат траціць на сваёй вартасьці.

Канюшыну трэба касіць, калі вялікшая частка яе закрасуе, не чакаючы, калі зацьвіце ўся, а тым-болей ня можна дапусьціць, каб тварылася насеньне.

Усе кіслыя лугі маюць толькі пэўную вартасьць. калі яны скошаны ў маладым стане, кіслыя перастарэлыя травы дадуць сена зусім благое.

Гэтак сама трэба вельмі зважаць на час касьбы гарохавых мяшанак, прызначаных на сена. Сена з гэткіх мяшанак (нпр. віка, пялюшка з аўсом) будзе мець высокую вартасьць кормную, толькі тады, калі стручковыя красуюць, калі-ж пачнуць ужо тварыць стручкі, — кормавая вартасьць гэткага сена вельмі значна абнізіцца.

(„*Tygodnik Rolniczy*").

## Табакі садзіць ня можна.

Віленская скарбовая ўлада выдала нядаўна сваімураднікам і паліцыі наказ, каб яны пільна сачылі за тым, ці хто не пасеяў дзе табакі без дазволу ўлады.

Знайшоўшы гэткую табаку, яны будуць яе зьнішчажаць, а на вінаватых засеву сьпісваць пратакол, на падставе каторага скарбовая ўлада будзе вызначаць штраф у велічыні пяцёх амаль злотых за кожнае каліва засеянай табакі. Радзім гаспадаром добра аглядзець свае гароды, ці не вырасла дзе табака самасейкай, бо паліцыя і ўраднікі за выкрыцьцё табакі атрымоўваюць нагароду і дзеля гэтага могуць чапляцца за было што.

# Корэспондэнцыі.

### Аб нашым жыцьці.

(*Навапагостская вол. Браслаўскага пав.*).

З радасьцю прыходзіцца чытаць у газэтах, што ў шмат якіх куткох нашае Бацькаўшчыны Народ паволі пачынае прабуджацца з вяковага сну.

І цешыцца а гэтага кожаны праўдзівы і сьведамы беларус.

Але вось у нашай старонцы дык яшчэ пануе ўзапраўдная цемра. Газэт і кніжак рэдка калі спаткаеш. Мала таго, старэйшыя мужчыны, дык нават глядзець ня хочуць на газэты ці кніжкі; пастолькі яны ім патрэбны, калі прыдзецца, што няма паперы на курэньне. Але запытаецеся, людзі добрыя, што-ж мужчыны робяць узімку? Нават сорамна казаць, чым яны займаюцца. Вось сабраўшыся вечарам дзе-нібудзь у хату яны пачынаюць граць у карты і часам граюць аж да сьвітаньня. Ведама, пасьля ігры на нешчасьлівага іграка удома нападаюць жанкі, дзеці і з гэтага вынікае калатня, спрэчкі, сваркі, а часам нават і бойкі.

Мужчыны, замест таго, каб даваць прыклад дзецям, займаюцца гэтаю шулерскаю работаю, вынікам якой бываюць і пакражы. А калі запрапануеш сабраць грошай дый выпісаць газэты, дык асьмяюць, аблаюць. „Што ты", кажуць: „будзеш хлеб есьці з твае газэты. Хай іх чытаюць вучоныя, паны — яны на гэта вучыліся, а нашыя дзяды і бацькі без газэт жылі, пражывём і мы".

Сэрца разрываецца, слухаючы гэткія словы. Як на гарэлку, дык ёсьць грошы, а гарэлка-ж найвялікшы вораг чалавецтва. „75% усіх праступкаў паходзіць ад гарэлкі" гэтак устанавіла статыстыка праступкаў.

Толькі вось чым чалавек можа пацешыцца: моладзь наша не ў бацькоў пайшла. Яна сама стараецца, каб дастаць і прачытаць газэту ці кніжку, пацікавіцца, што робіцца на белым сьвеце. Цікавяцца гэтым нават і дзяўчаты, ня толькі хлапцы. Гэтае імкненьне моладзі павінны мы пры-

віталь. Усё гэта добра, але каб старэйшыя мужчыны давалі малодшым прыклад, дык было-б яшчэ шмат лепш.

Арганізацыяў у нас цяпер няма ніякіх. Нават беларускіх культурна-прасьветных няма ніякіх, а гэта вельмі кепска, бо замест таго, як моладзь траціць шмат часу узімку, дык яна магла-б аддацца культурна-прасьветнай працы. Згуртаваная у якое-небудзь — культурна-прасьветнае таварыства моладзь магла-бы напрыклад ставіць спэктаклі, а глядзельнікаў ніколі бы не забракла.

Гаспадарчае жыцьцё нашае проста гаротнае. Зямлі мала дык, і так на большай частцы балотністая. І вось у некаторых больш сьведамых адзінак нашай мясцовасьці паўстала у мазгоўніцы думка, каб залажыць за адсутнасьцю беларускага гурток сельска-гаспадарчы так званае „кулко рольнічэ“. Вяда толькі ў тым, што ня ведаем, куды і як зьвярнуцца за парадай, каб прыслалі нам інструктара, які-бы нас навёў на пуць. Апрача таго ў нас ёсьць вялікія абшары пасьбішча ў некаторых сялян ёсьць па 2—3, а то і 4 кароў; дзеля таго можна было-бы залажыць малачарню ці малачарскую суполку, бо шмат малака марнуецца дарма, а на нашых маламестачковых рынках малочныя вырабы як: сыр, масла па парананьні нават з віленскімі цэнамі вельмі танныя. Нават можна узяць прыклад з жыдоў, як яны хутка багацеюць з малачарняў. Дык вось, мужчыны, кіньце свае „дзіцячыя забаўкі“, гульню у карты, а трэба самым дабівацца паляпшэньня свайго эканамічна-культурнага жыцьця, бо гэта здольны зрабіць толькі мы самі.

Дайце прыклад малодшым і пакажэце, што вы яшчэ трошкі маеце ў галаве розуму. Газэты і кніжкі патрэбны, нават неабходны для кожнага цывілізованага чалавека, а тым больш яшчэ для такіх цёмных, як мы сяляне—беларусы.

Скіньце з сябе ярмо цемры, бо ў XX веку гэта сорамна, бо нават нэгры у Афрыцы і то пачынаюць адраджацца, а мы эўропэйцы горшыя за іх ці што?

Сонца Беларускага адраджэнскага руху асьвяці нашу мясцовасьць. *Селянін М.*

---

# З Сойму.

З найгалаўнейшай справай, якой бязумоўна ёсьць буджэт дзяржавы, Сойм у апошнія дні справіўся. Бюджэт з нязначнымі папраўкамі Сойм ухваліў. З пасярод паправак, адной з найгалаўнейшай, адкланеньне дыспазыцыйнага фонду для Міністра Унутраных Справаў. Бюджэт па ухваленьні перасланы ў Сэнат.

Неспадзеўкаю было, што бюджэтная камісія сэнату, на прапазыцыю сэнатара Шарскага з Беспартыйнага Блёку большасьцяй галасоў пастанавіла прыняць бюджэт такім, якім яго прыняў Сойм.

Неспадзеўкай для палітычных і парлямэнтарных кругоў такая пастанова справы была дзеля таго, што ў Сэнаце ўрад мае запэўненую большасьць і ўсе спадзяваліся, што Сэнат захоча адкінуць папраўкі Сойму і прыняць бюджэт у такім кшталце, ў якім яго ўнёс Урад у Сойм.

Вытлумачаньнем такой пастановы сэнацкай бюджэтнай камісіі ёсьць заява марш. Сэнату праф. Шыманскага, які сказаў: „Большасьць Сэнату, кіруючыся дабром дзяржавы, пастанавіла не выклікаць непаразуменьняў, якія маглі-б настаць паміж Соймам і ўрадам на грунце новых зьменаў у бюджэце і дзеля гэтага пастанавіла прыняць бюджэт так, як яго прыняў Сойм, міма таго, што да цэлага шэрагу соймавых папраўак устасункоўваецца крытычна. Каб пазбыцца ўсялякіх конфліктаў урад, як дапушчаю, у паразуменьні з зблізканымі да яго партыямі, прыме праўдападобна бюджэт у такім стане, ў якім яго прыняў Сойм“.

На наступным паседжаньні Сойм разглядаў проект амністыі. Амністыя даруе кары за праступкі дакананыя у 1918—20 г. на абшары Галіцыі і Валыні (адносна украінцаў) у $^1/_3$ кары будзе даравана камуністым, часткова усіх тых якія дакаталі праступкаў з повадаў палітычных, нацыянальных і рэлігійных. Прэсавыя праступкі, ў якіх зьняважана права і ўрадоўцы, будуць дараваны цалком. Замест кары сьмерці, будзе 15 гадоў катаргі, а вечная катарга будзе скарочана да 10 г. З амністыі будуць карыстаць, пакараныя штрафам за лясныя праступкі. Пасол Ярэміч дамагаўся пашырэньня амністыі на ўсе праступкі дакананыя да дня 3 траўня 1928 г., бо ўрадовы проект датычыць толькі тых праступкаў, якія мелі месца да 3 траўня 1926 г.

У галасаваньні Сойм прыняў проект урадовы амністыі, з невялікімі зьменамі рэгуляміновай соймавай камісіі.

---

# З жыцьця Наваградчыны.

## Нарады ў Наваградку.

17 чэрвеня адбыўся ў Наваградку зьезд рэгіональнай групы паслоў з адзінкі Віленскага і Наваградзкага ваяводзтваў.

У нарадзе, апрача паслоў і сэнатараў, узялі ўдзел ваяводы: віленскі Рачкевіч і наваградзкі Бэчковіч і начальнік аддзелу нацыянальных меншасьцяў Сухэнэк.

Тэмай нарадаў была справа сплаву дзерава па Нёмне, беларуская справа, справа беларускага школьніцтва і іншыя.

У справе сплаву дзерава па Нёмне прачытаў рэфэрат пасол Рачкевіч, у беларускай справе палітычны рэфэрат прачытаў сэнатар В. Абрамовіч і ў справе беларускага школьніцтва Акуліч. Пасьля рэфэратаў была дыскусія.

Нарада ў гэтых справах не закончана. Пастаноўлена ў найбліжэйшым часе закончыць яе ў Варшаве. З гэтай прычыны і ня прынята аканчальных рэзалюцыяў.

Нарада гэная можа мець важнае значэньне для разьвязаньня беларускае справы прынамсі ў галіне школьніцтва.

---

# Хроніка.

## Арышт у Жодзішках.

12 чэрвеня паліцыя арыштавала Ст. Грыба і М. Ермака. Прычынай арышту зьяўляецца тое, што ўспомненыя падчас набажэнства сьпявалі у касьцёле беларускія рэлігійныя песьні. Нейкая баба хацела ім перашкодзіць сьпяваць пабеларуску, але яны не зьвяртаюцы на яе ўвагі, далей пялі. У справе арыштованых пасол А. Стэповіч зьвяртаўся да ваяводзкага начальніка бясьпеч-

насьці ў Вільні, які абяцаў справу разглядзець. „Dziennik Wileński“, падаючы вестку, піша, што арыштованы „wywrotowcy“. Нават хваленьне Бога ў уласнай мове для гэтых паноў ёсьць „wywrotową akcją“.

### Замеры Коўша.

„Kurjer Wileński“ падае, што духоўны праваслаўны Коўш, які быў прычэплены да справы „Грамады“ і апраўданы, прыступае да стварэньня арганізацыі, маючай на мэце аб'яднаньне праваслаўных беларусаў.

### Звальненьне з вастрогу.

Перад некалькімі днямі звольнены з вастрогу б. кандыдат на пасла са сьпіску „Змаганьне за інтарэсы сялян і работнікаў“ Паўла Крынчук, абвінавачаны ў сваім часе з арт. 102 К. К.

### Новыя кнігі.

Вышлі з друку і прадаюцца ўва ўсіх беларускіх кнігарнях наступныя кнігі: 1. Крапіўніцкі М. „Па рэвізіі“. Камэдыя ў 1-эй дзеі. Перароблена з украінскага. Выд. Т-ва Бел. Школы. 2. Карусь Каганец „Модны шляхцюк“. П'еса ў 1-эй дзеі. Выд. Т-ва Бел. Шк. 32 стар. вял. фар. Цана 60 гр. 3. М. Крапіўніцкі. „Пашыліся ў дурні“. Жарцік у 3-х дзеях. 32 стар. вял. фар. Цана 60 гр. Выд. Т-ва Бел. Шк. 4. Б. Друцкі-Падбярэзкі. Байкі, гумар, сатыра, з рысункамі ў тэксьце, сшыток I і II, 64 стар. сярэдняга фарм. Цана 1 зл. 50 гр. „Віленскага выдавецтва“ Б. Клецкіна.

Успомненыя кнігі можна купіць у беларускіх кнігарнях у Вільні.

### „Вечар славянскай песьні“ ў Віленскай Беларускай Гімназіі.

У нядзелю, 17 чэрвеня адбыўся канцэрт-лекцыя славянскае песьні, ладжаны кіраўніцтвам гімназіі, сіламі вучнёўскага хору і запрошаных солістаў.

Канцэрт быў пасьвечаны славянскай песьні, якая вочавідна паказала падабенства і розьніцу душы блізкіх славянскіх народаў: беларусаў, украінцаў, палякоў і расейцаў (велікаросаў).

Кожную часьць канцэрту ў выкананьні хору і солістаў папераджала прамова аб характары песьні данага народу, ілюстрацыяй-жа вывадаў лектара былі харавыя песьні і выступленьні солістаў.

З вельмі цікавым дакладам аб характары славянскай песьні і аб значэньні песьні выступаў прафэсар К. Галкоўскі. Абрысаваўшы значэньне песьні, як выразу душы, жывога сэрца і псыхолёгіі кожнага народу, прэлегэнт пасьля ў кароткіх сынтэтычных вывадах накінуў нарыс характару кожнага канцэртнага аддзелу, якіх было 4.

Першым быў выкананы польскі аддзел з 3-х нумароў, пасьля расейскі, за ім ішлі украінскія песьні і танец „гапак“ і ўрэшце канцэрт закончыўся беларускімі песьнямі, з „Лявоніхай“ і „Юркай“ на сцэне пасьля песьняў.

Кожны аддзел меў іншую дэкорацыю.

Сабраўшаяся ў значнай лічбе публіка, як адчувалася на канцэрце, была ачарована прыгожасьцяй і харастом чутага са сцэны і вельмі шчыра прымала і вітала выканаўцаў праграмы канцэрту.

Трэба прызнацца, што канцэрт 17 чэрвеня быў сапраўдным мастацкім сьвятам, і выканаўцы і кіраўніцтва вечару добра прыслужыліся беларускаму мастацтву, якое ачаравала ўсіх сабраўшыхся ў гэты вечар у Гімназіі.

І даклад-лекцыя праф. Галкоўскага і ўсе аддзелы канцэрту здаваліся кароткімі, бо хацелася слухаць і слухаць.

Прэлегэнт вельмі талентна і прыгожа чытаў свой даклад, які месцамі быў дэклямаваны з вялікім мастацтвам.

Новыя беларускія песьні ў гарманізацыі праф. Галкоўскага былі вельмі гарача прынятыя публікай, якая так-жа шчыра дзякавала аўтору іх музыкальнае формы.

Хор беларускае гімназіі пад кіраўніцтвам гр. Шырмы разьвіваецца што-раз больш і бяз сумліву можа заняць адно з першых месц сярод віленскіх хораў.

Выступаўшыя солісты гр. Зубовічыха, Шырміха, Крэчатаў, Арцемэнка выканалі солёвыя нумары праграмы вельмі прыгожа і саля бурнымі воплескамі дамагалася паўтарэньня.

Пакідаючы прыгожа прыбраную салю Беларускае Гімназіі, публіка голасна выражала жаль, што ўжо закончылася праграма вечару і паміма познай пары хацела яшчэ слухаць таго, што йшло са сцэны.

Мусім ад'значыць, што на вечары ў беларускай гімназіі, дзе заўсёды прывыклі мы відаець толькі частку беларускага грамадзянства, гэтым разам былі прадстаўнікі ўсіх групаў і партыяў.

Мастацтва злучыла ўсіх і гэта таксама надавала добрую рысу вечару. Бачылася паслоў змаганцаў, сельсаюзьнікаў, хадэкаў і б. грамадоўцаў, апраўданых на працэсе. Ці гэта не азнака санацыі нашых умоваў палітычнага жыцьця і канец можа групавое калатні. Дай Божа!

### Навабранцы могуць жаніцца.

Да нядаўна навабранец перад адбыцьцем вайсковай службы, калі хацеў ажаніцца, мусіў атрымаць на гэта дазвол ваенных уладаў.

Паводле новага закону аб навабранцах, яны не патрабуюць прасіць дазволу ваенных уладаў, калі маюць замер жаніцца перад ваеннай службай.

Аднак, калі навабранца ўзялі да войска, і калі ён хоча жаніцца падчас адбываньня службы, павінен атрымаць на гэта дазвол ваенных уладаў.

---

## Апошнія навіны.

**Пералёт праз акеан.** Жанчына-лятун, амэрыканка Амэлья Эргард, якая разам з лятуном і мэханікам вылецела з мясцовасьці Трэпассэў у Новай Фунляндыі (Амэрыка), пераляцела праз Атлянтыцкі акеан і спусьцілася ў Валіі (Англія). Вестка аб памысным заканчэньні трансатлянтыцкага лёту разышлася над'звычайна хутка па ўсёй Амэрыцы, выклікаючы ўсюды радасьць і энтузіязм. Амэлья Эргард першая жанчына-лятун, якая дакачала вялікага пералёту.

Як бачым, пералёт з Амэрыкі ў Эўропу ўдаецца. А з Эўропы ў Амэрыку не. Толькі нямецкія ля-

туны здолелі даляцець да паўночных берагоў Амэрыкі і там на маленькім востраве муселі спускацца, бо не хапіла бэнзыны.

**Польскі лёт у Амэрыку.** У гэтых днёх двох польскіх лятуноў маёр Ідзікоўскі і Кубаля паляцяць з Парыжа ў Амэрыку. Яны ўжо год прыгатаўляліся да пералёту.

**Нямеччына. Тварэньне новага ўраду.** Як ведама выбары ў нямецкі парлямэнт, якія адбыліся 20 траўня далі перамогу дэмакратычным партыям. Пасьля адстаўкі папярэдняга ўраду, місіі стварыць новы паднявўся соцыяль-дэмакрат Мюллер. Спроба ўтварэньня новага ўраду не дала да гэтай пары позытыўных вынікаў.

Паўсталі паважныя розьніцы датычна праграмы працы новага ўраду паміж соцыялістымі і нямецкай народнай партыяй, павадырам якой ёсьць цяперашні міністар заграпічных справаў Штрэзэман.

Галоўным чынам розьніца паглядаў зазначылася ў справе будовы вялікага браняносца, спыненьня якой дамагаюцца соцыялістыя, у справе абвешчаньня гадавіны вэймарскай конституцыі нацыянальным сьвятам і ў справе маёнтковага падатку, звальненьня ад якога пэўнай катэгорыі жыхароў жадаюць соцыялістыя.

Аднэй з паважных справаў, з прычыны якой ня могуць згадзіцца, гэта справа амністыі, якую без'адкладна меў-бы апрацаваць новы ўрад.

Есьць, як відаць, шмат прычынаў, дзеля якіх ня можна асягнуць міжпартыйнага паразуменьня.

**Грэцыя. Рэвалюцыя ў Грэцыі.** Перад некалькімі днямі пачалася ў Грэцыі забастоўка работнікаў табачных фабрык. Сьпярша забаставала каля 40 тысячаў работнікаў. Урад хацеў зглуміць забастоўку энэргічнымі спосабамі і рэпрэсіямі. Гэта выклікала якнайгоршыя пасьледствы. Забастоўка ахапіла ўсіх табачных работнікаў і перакінулася на іншыя галіны промыслу. Паліцыя і жандармэрыя ў барацьбе з работнікамі аказалася бясьсільнай. Работнікі пабудавалі на вуліцах барыкады і пачаліся баі з паліцыяй. Было шмат ахвяр сярод паліцыі і работнікаў. Урад паклікаў на дапамогу войска. Часьць войска аднак перайшла на бок работнікаў. Адначасна наступіла гэнэральная забастоўка. Палажэньне ў Грэцыі вытварылася вельмі паважнае.

Апошнія тэлеграмы з Грэцыі падаюць, быццам ураду ўдалося часткова апанаваць сытуацыю.

**Югаславія. Забойства ў югаславянскім парлямэнце.** На паседжаньні югаславянскага парлямэнту 19 чэрвеня б. г. меў месца трагічны выпадак. Выступаў з прамовай пасол Рачыч, які востра крытыкаваў опозыцыю. Прамова яго выклікала абурэньне з боку староньнікаў пасла Сьцяпана Радзіча. Сходзячы пасол Рачыч выняў рэвальвэр і даў некалькі стрэлаў з трыбуны у бок паслоў опозыцыі, у выніку чаго забітымі аказаліся паслы Павал Радзіч, Джура і Бассарычак, а раненымі Сьцяпан Радзіч, Грандія, Елясіч і Пэрнар. Гэты ганебны паступак выклікаў абурэньне сярод усіх слаёў насельніцтва. Адбылося экстраннае паседжаньне ураду, на якім пастаноўлена правясьці энэргічнае сьледзтва і пахаваць ахвяры забойства на кошт дзяржавы.

У парлямэнт будзе ўнесена прапазыцыя аб прызнаньні дапамогі сем'ям паслоў, якія сталіся ахвярай свайго абавязку.

Газэты падаюць, што на ўчарашнім паседжаньні Скупшчыны (так называецца югаславянскі парлямэнт) пасол Папович крыкнуў да Пасла Паўла Радзіча: „Яшчэ вы згубіце тут сваю галаў, аб гэтым я пастараюся“. Пагроза гэная хутка споўнілася.

**Кітай.** Чан-Кай-Шэк прэзыдэнтам Кітаю. Перамога нацыянальных войскаў, на чале якіх стаіць Чан-Кай-Шэк і заняцьце сталіцы Кітаю Пэкіну ёсьць азнакай скорага заканчэньня хатняе вайны ў Кітаі. Чан-Кай-Шэк згадзіўся быць пасярэднікам паміж гэнэраламі Фэнгам і Іенам, ад згоды якіх залежыць у вялікай меры успакаеньне. Адначасна запрапанавана Манджурыі ўвайсьці ў Куомінтанг, а калі-б яна не згадзілася, дык злучаныя нацыянальныя войскі змусяць вайной Манджурыю да згоды. Пасьля ўсяго гэтага Чан-Кай-Шэк, нацыянальны асілак, мае быць выбраны прэзыдэнтам Кітаю.

Нанкінскі ўрад разаслаў ноты да ўсіх урадаў, у якіх прапануе перагляд старых дагавораў і заключэньне новых. Таксама высланы новы прадстаўнік Кітаю ў Лігу Народаў. Хоць з трудом і праз вялікія ахвяры кітайскі народ стаўся гаспадаром у сваёй хаце і скінуў ярмо розных няпрошаных апякуноў, якія яго высысквалі і гнялі. Ідэя нацыянальнага адраджэньня усё перамагла.

**Гэн. Нобіле знайшлі.** Італьянскі гэн. Нобіле з вучонымі і абслугай самалёту паляцеў да паўночнага полюсу. Выправа яго не ўдалася. Самалёт разьбіўся. і гэн. Нобіле апынуўся на ледавым остраве, сярод крыгаў лёду. Пры помачы радыё, ён падаваў весткі аб месцы, дзе знаходзіцца. На помач былі высланы самыя лепшыя лятуны падарожнікі, абзнаёмленыя з ваколіцамі паўночнага полюсу. Агулам у шуканьні гэн. Нобіле бярэ ўдзел больш як 20 самалётаў розных дзяржаваў і караблі. Нарэшце ўдалося знайсьці частку людзей з самалёту гэн. Нобіле, яны выратаваны.

Разышліся непацьверджаныя весткі, што лятуну Мадалене ўдалося на самалёце знайсьці месца, дзе знаходзіцца гэн. Нобіле. Лятун скінуў гэн. Нобіле прадукты жыўнасьці і прылады, якіх гэн. Нобіле жадаў.

Пазьней надыйшла вестка, што вядомаму падарожніку Амундсэну ўдалося ў аўторак спусьціцца ў абозе гэн. Нобіле.

Такім чынам, каб весткі гэтыя аказаліся праўдай, гэн. Нобіле і яго таварышы былі-б уратованы.

## Юрыдычныя парады.

**Гр. В. Кал—ку.** *Запытаньне*: Перад сьмерцю бацька зрабіў тастамант, па якому запісаў дачцэ 2 дз. зямлі і наказаў сыну, якому переказаў рэшту зямлі—7 дз.—даць сястрэ пасаг і зрабіць вясельле. Бацька памёр вясной мінулага году. Дачка выйшла замуж увосень мін. году. Брат пасагу ня даў, а на вясельле даў толькі 25 зл. — Зямлі зусім не дае, а кажа каб карысталася супольна з ім. Ці можна змусіць, каб брат аддаў дачцэ тое, што ёй належыцца. Тастамант на ру-

ках дачкі і кажуць, што яму ўжо зышоў тэрмін. Што і як рабіць?

*Адказ*: Перш на перш—калі тастамант яшчэ не зацьверджаны праз Суд, а ад дня сьмерці ужо прайшоў поўны год — дык тастамант нічога ня варты і па ім нічога атрымаць нельга. Але гэта і ляпей для дачкі, бо без тастаманту, які даваў ёй толькі 2 дз. зямлі, яна мае права і можа атрымаць палову усяе маемасьці, г. ё. палову зямлі, будоўлі і усяе рухомасьці, якая засталася пасьля бацькі. Хай падасьць да міравога суда просьбу аб зацьверджаньні яе у правох насьледства і аб адабраньні ад брата паловы усей маемасьці і перадачы ёй.

**Гр. Ан. Яр—чу.** *Запытаньне*: Яшчэ у 1926 г. мы судзіліся з сынамі за ураджай. На судзе пamiрыліся. Але сын мяне ашукаў. Карыстаючыся з таго, што я мала пісьменны і кепска разумею папольску запісаў у міравой, быццам я прызнаю яго права на супольнае карыстаньне ім $^1/_4$ ч. майго вучастку.

У мінулым годзе ён падаў на мяне ў суд, што я не дапушчаю яго самастойна карыстацца гэтай $^1/_4$ ч. Суд пастанавіў дапусьціць яго да карыстаньня на падставе міравой. Я падаў апэляцыю. Апрыч таго мне параілі, каб я напісаў тастамант, дзе толькі па сьмерці маёй я аддаю яму $^1/_4$ ч. зямлі, а рэшту зямлі, ўсе будынкі і рухомасьць адказваю — $^1/_2$ другому сыну а $^1/_4$ ч. унуку. Ці будзе што з гэтата і ці сын зможа забраць ад мяне зямлю?

*Адказ*: Калі вы самі на судзе прызналі за сынам права на $^1/_4$ ч. зямлі, дык цяпер спорыць, ссылаючыся на тое, што не зразумелі зьместу міравой — позна. Рашэньне Міравога Суда будзе зацьверджана і апэляцыйнай інстанцыяй. Нічога у гэтым ня зьменіцца. Тастамант гэты наадварот—дае гэтаму сыну права яшчэ на $^1/_4$. Бо-ж тая чацьвёрка права на якую прызнана ўжо Судом—ужо ня вашая, а сына. Вы па тастаманту можаце распарадзіцца толькі тым, што да Вас асабіста належыць будзе у часе Вашай сьмерці. Іначай гаворачы, можаце пераказваць права ўжо не на ўвесь вучастак, а на $^3/_4$ яго. Запісваючы таму-ж сыну па тастаманту $^1/_4$ ч. — Вы даеце сыну права на атрыманьне яшчэ $^1/_4$ ч., апрыч таго што ён мае. І гэткім чынам выйдзе, што ня другі сын, а той, які з Вамі судзіцца атрымае $^1/_2$ Вашай зямлі. Вы-ж як відаць больш $^1/_4$ ч. яму даць ня хочаце. Дзеля гэтага Вы павінны ў тастаманце напісаць, што гэтаму сыну Вы не запісваеце нічога, апрача таго, што ён атрымаў ужо цяпер па рашэньню Суда.—Тастамант зрабіць варта, іначай гэты сын атрымае больш, чым Вы хочаце даць яму, бо пасьля Вашай сьмерці, калі ня будзе тастаманту, ён атрымае яшчэ роўную часьць з братам апрача таго, што ўжо мае цяпер.

## Да ведама ўсіх тых, хто мае справы ў судох.

Вельмі часта нашыя сяляне, якія маюць справы ў судох, робяць сабе страты па сваёй віне.

Аўтору гэтых радкоў часта прыходзілася бачыць, як сяляне шукаюць і ня могуць знайсьці сваіх зложаных у судзе дакумэнтаў, толькі дзеля таго, што ня ведаюць, калі гэтыя дакумэнты былі пададзены ў суд, а асабліва дзеля таго, што патрацілі судовыя павесткі.

Кожны, хто мае справу ў судзе, павінен берагчы павестку, бо яна можа стацца патрэбнай за многа гадоў, калі трэба будзе знайсьці выйграную ці нават прайграную справу ў судовым архіве, куды складаюцца ўсе акты і дакумэнты. Без павесткі нельга гэтага знайсьці ў хуткім часе і, ў выпадку патрэбы якога-небудзь старога дакумэнту, селянін, страціўшы павестку, мусіць плаціць за вынаход грошы адвакатам. Тымчасам старая павестка дае магчымасьць самому селяніну атрымаць з суда ўсе дакументы бяз коштаў і страты часу. Кожны, хто судзіцца, павінен дзеля гэтага добра захаваць павестку і ўсялякую паперу з суда, не марнаваць яе, бо якраз з яе могуць скарыстаць за многа гадоў калі ня тыя, што судзіліся, то мо' іх дзеці, без патрэбы шуканьня помачы ў адвакатаў, за якую трэба плаціць падчас вельмі дорага.

## Аб усім патроху.

### Густата жыхарства зямное кулі.

Франкфурцкі журнал падаець цікавую статыстыку густаты жыхарства зямное кулі, спастаўляючы вынікі апошняе перапісі люднасьці з плошчай кожнага паасобку краю.

Гэтак, найбольшая густата жыхарства заўважваецца на Яве, дзе на плошчы ў 131.441 кв. кілёмэтр, жывець 34.984.171 чалавек, г. зн. на кв. кіл. прыпадаець 266 чал.; наступнымі па густаце старонкамі зьяўляюцца Бэльгія (255 чал. на кв. кіл.) і Голяндыя (200 чал.).

У Англіі на плошчы 1 кв. кіл. жывець у сярэднім 187 чалавек, а ў Нямеччыне 134 чал. Густата жыхарства ў Італіі і Японіі дасягае 125 чал. на кв. кіл., тады, калі ў Аўстрыі прыпадаець 78 ч., а ў Францыі 74, у Польшчы—70 ч. на кв. кіл. у Кітаі — 39 ч. і амаль што гэтулькі ў Літве.

Густата жыхарства ў Латвіі ў параўнаньні з другімі старонкамі малая. На плошчы 1 кв. кіл. у Латвіі у сярэднім жывець толькі 28 чал.; у Эстоніі яшчэ меней — 23 ч. на кв. кіл.

У Эўропэйскай Расеі на кв. кіл. прыпадаець 15 чал., яшчэ больш нізкія цыфры даець Швэцыя — 14 чал., Злучаныя Амэрыканскія Штаты — 13 чал. і Норвэгія 8 чал.

Найменш густа населена Канада дзе на плошчу 1 кв. кіл. прыпадаець 0,91 чал. і Аўстралія — 0,71 чал. на 1 кв. кіл.



Адказны Рэдактар і выдавец Ф. Умястоўскі. Druk Józefa Zawadzkiego w Wilnie, вул. Сьв. Анны 3